памяць XX стагоддзя 1912

# Манпарнас

**Міхал МАТУШ**

Карціны трох майстроў, якія на пачатку стагоддзя прыбылі ў Парыж і здымалі майстэрні на Манпарнасе, цяпер, пад канец стагоддзя, упрыгожваюць лепшыя музеі свету і каштуюць мільёны долараў. Іх і невялікае кола такіх жа, але менш знакамітых жывапісцаў, называюць Парыжскай школай. Назва вельмі ўмоўная — ніхто з іх апрыорна не мог мець паслядоўнікаў і вучняў, бо яны былі геніі.

Пабла Пікасо нарадзіўся ў Іспаніі ў сям'і мастака. Амадэо Мадыльяні паходзіць з сям'і ліворнскіх сефардаў (яўрэяў, што некалі былі змушаны пакінуць Іспанію). А дзяцінства і юнацтва Марка Шагала прайшло на лёзненскіх і віцебскіх вулках, памяць пра якія прасякае шмат яго твораў.

У 1912 годзе Пікасо было 30 гадоў, Мадыльяні — 27, Шагалу — 24. Яны наведвалі адзін аднаго ў майстэрнях, вечарамі сустракаліся ў кафэ на Манмартры, у коле іх агульных сяброў і знаёмых былі Апалінэр і Ганна Ахматава. На той час усе трое ўжо мелі выстаўкі, вядомасць і пэўнае прызнанне таленту. З гэтай тройцы найменш шанцавала Мадыльяні. Ён ад прыроды меў слабое здароўе, што адбілася на ягоным характары. Схільны да меланхоліі, Мадыльяні моцна залежаў ад крытыкаў, прызнання, а яшчэ больш ад пакупкі сваіх работаў калекцыянерамі і гандлярамі. У гэтым апошнім поспех не спяшаўся да яго. Найбольш намаганняў дзеля продажу яго карцін прыклаў Леапольд Збароўскі, малады паэт, які прыехаў у Парыж з Польшчы, і намагаўся дапамагчы сябру, прапануючы дзе магчыма ягоны незвычайны жывапіс. Але ўдача прыходзіла вельмі рэдка. Мадыльяні цікавілі выключна людзі, жывая натура. За ўсё жыццё ён напісаў два пейзажы. Адораны ад прыроды надзвычайным талентам, ён паказаў сябе не толькі ў партрэтным жывапісе. Прызнанне пазнейшых крытыкаў заваявала ягоная скульптура. Але калі ў 1913 годзе ён у родным Ліворна паказаў работы сябрам, яны сустрэлі яго творчасць з прахаладай неразумення. Лёгка ранімы Мадыльяні ўтапіў свае скульптуры ў гарадскім канале.

Сапраўднае прызнанне ён атрымоўваў ад жанчын, якія інтуітыўна адчувалі моц яго гарманічнага жывапісу. Аднак ні да аднай сваёй сяброўкі ён не змог прывязацца настолькі, каб у выніку атрымалася нармальная сям'я. У адрозненне ад яго, Пікасо быў жанаты чатыры разы, не лічачы грамадзянскіх шлюбаў.



Мадыльяні больш за ўсё любіў жывапіс і жанчын

Ва ўсіх хроніках жыцця геніяльнага іспанца пазначаныя жанчыны, якія аказвалі ўплыў на ягоную творчасць. З 1905 па 1912 год яго сяброўкай была Фернанда Алів'е, пасля — Марсель Убэр, у 1918 годзе ён пазнаёміўся з балерынай Вольгай Хахловай, якая ў 1921 годзе падаравала яму сына Поля, у 1931 годзе яго музай стала Марыя-Тэрэза Вальтэр, ад якой у Пікасо была дачка Майя, ад Францыазы Жыло Пікасо меў дзяцей Клода (1947 год) і Палому (1949 год). Ягонай апошняй выбранніцай стала Жаклін Рос, з якой ён пасябраваў у 1954 годзе, а ўступіў у шлюб у 1961. Здаецца, толькі Шагал быў арыентаваны на традыцыйныя каштоўнасці. У 1909 годзе ён пазнаёміўся з Бэлай Розенфельд, праз шэсць гадоў яны сталі мужам і жонкай і пражылі разам да 1944 года, калі Бэла памерла ў Нью-Йорку. У 1952 годзе Марк Шагал ажаніўся з Валянцінай Бродскай, разам яны сустрэлі глыбокую старасць.

Пікасо і Шагал атрымалі прызнанне сучаснікаў адразу. Мадыльяні, падобна Гагену, заваяваў прызнанне свайго таленту пасля смерці. Невыпадкова на яго надмагіллі выбіты надпіс: «Ён памёр на парозе славы!» Мадыльяні памёр ад туберкулёзнага менінгіту 24 студзеня 1920 года, а ранкам наступнага дня з акна 5-га паверха выкінулася яго каханка Жанна Эбютэрн, якая была на апошнім месяцы цяжарнасці. За 14 месяцаў да гэтага ў Мадыльяні і Жанны нарадзілася дачка Джаванна. Няшчаснае дзіця, у адзін дзень пакінутае бацькамі, выхоўвалі бабулі. У тую трагічную ноч узрушаную Жанну пільнаваў брат, бо яна тройчы спрабавала адчыніць акно. Уначы Жанна дачакалася, калі брата зморыць сон, і выканала сваё жаданне. Брат паспеў да акна, калі Жанна была ўжо ў паветры. На могілкі Пэр-Лашэз Амадэо Мадыльяні праводзіў увесь Парыж. На пахаванні Жанны на сціплых могілках на іншым канцы Парыжа прысутнічала некалькі сяброўак. Толькі праз некалькі гадоў іх прах паклалі побач з Мадыльяні.

Увага да Мадыльяні абудзілася пасля яго смерці. Пражыўшы жыццё ў беднасці, ён сваёй творчай спадчынай узбагаціў не адно пакаленне гандляроў карцінамі.

Калі б не слабое здароўе, Мадыльяні, відаць, па маштабе зробленага стаў бы побач з сябрамі сваіх маладых гадоў.

Пабла Пікасо перажыў Мадыльяні на 53 гады. Яшчэ ў 87-гадовым узросце ён выканаў за 7 месяцаў 347 гравюр — па 50 у месяц.

Шагал у 94 гады заканчваў вітражы для сабора ў Сент-Эцьене. Ён сканаў за два гады да свайго 100-годдзя. ■

АДУКАЦЫЯ

# Куды пайсці вучыцца

**Хутка пачнецца новы навучальны год. У НАВІНАЎ многа чытачоў, у чыіх сем'ях прывячаецца беларускамоўная адукацыя. Каб дапамагчы бацькам знайсці патрэбную для іхніх дзяцей навучальную ўстанову, НАВІНЫ друкуюць спіс беларускмоўных школаў і дзіцячых садкоў у кожным раёне горада Мінска. Гэтую інфармацыю даслала Упраўленне адукацыі Мінгарвыканкама.**

**У 1998/99 навучальным годзе статус беларускамоўных захавалі 11 школ:**

| *район* | *колькасць* | *нумар школы* |
|---|---|---|
| Заводскі р-н | 2 | (СШ 68, гімназія № 111) |
| Кастрычніцкі р-н | 2 | (СШ № 11, СШ № 89) |
| Ленінскі р-н | 1 | (СШ № 2) |
| Маскоўскі р-н | 1 | (СШ № 60) |
| Партызанскі р-н | 1 | (СШ № 72) |
| Першамайскі р-н | 2 | (гімназія № 9, СШ № 190) |
| Фрунзенскі р-н | 1 | (гімназія № 4) |
| Цэнтральны р-н | 1 | (мастацкая школа-ліцэй № 26) |

У вышэйназваных школах, пачынаючы з падрыхтоўчага класа і да старэйшых, навучальна-выхаваўчы працэс цалкам вядзецца на беларускай мове. Напрыклад, у СШ № 2 да 7 класа, у СШ № 68, № 11, № 72 да 8 класа, у гімназіі № 4, школе-ліцэі № 26 да 9 класа, у гімназіі № 111, СШ № 89, гімназіі № 9, СШ № 190 да 10 класа.

Апрача беларускамоўных школ, у 119 сярэдніх школах з рускай мовай навучання адкрыта 1.236 беларускамоўных класаў. Была захаваная значная колькасць такіх класаў з напаўняльнасцю 6–14 чалавек, што пярэчыць рашэнню Мінгарвыканкама № 572 ад 10.07.97 г. «Аб мерапрыемствах па эканоміі бюджэтных і пазабюджэтных сродкаў у 1997 годзе», згодна з якім класы пачатковай школы павінны адкрывацца пры напаўняльнасці не меней як 25 чалавек, а класы сярэдняй і старэйшай школы — не меней як 30 чалавек.

З мэтай захавання сеткі класаў з беларускай мовай навучання органы адукацыі, кіраўніцтва школаў, педагагічныя калектывы напярэдадні навучальнага года праводзяць тлумачальную работу сярод бацькоў вучняў беларускіх класаў.

Для таго, каб забяспечыць пераемнасць у вучэбна-выхаваўчым працэсе, у горадзе функцыянуе 13 беларускамоўных садкоў, 154 беларускія групы. Па раёнах гэта выглядае наступным чынам:

| *Раёны* | *дзіцячыя ўстановы* | *групы* | *тэлефон для даведак* |
|---|---|---|---|
| Заводскі | 3 (№ 443, 277, 202) | 18 | 246-53-40 |
| Кастрычніцкі | 1 (№ 287) | 52 | 224-49-68 |
| Ленінскі | 5 (№ 47, 299, 374, 446, 454) | 14 | 221-83-16 |
| Маскоўскі | — | 15 | 270-39-71 |
| Партызанскі | 3 (№ 69, 114, 457) | 3 | 236-90-71 |
| Першамайскі | 1 (№ 539) | 21 | 285-77-79 |
| Савецкі | — | 24 | 284-91-69 |
| Фрунзенскі | — | 7 | 254-72-81 |
| Цэнтральны | — | 4 | 284-71-22 |

ЦЫВІЛІЗАЦЫЯ

## Надувание презервативов — лучшее средство от СПИДа

**Елена САВИНА**

В Китае разработана новая методика полового просвещения молодежи в непринужденной обстановке, подразумевающей «более тесное взаимодействие между преподавателем и студентом».

В целях усиления заинтересованности студентов в данном образовании преподаватель может предложить самым застенчивым надуть презерватив, как воздушный шарик, «чтобы он или она привыкли к этому распространенному противозачаточному средству». Подобные занятия предназначены для студентов первого курса университетов Пекина и Шанхая.

Из-за размаха эпидемии СПИДа китайские власти были вынуждены отказаться от традиционного запрета обсуждения темы секса в обществе. По данным официальной статистики, число зараженных вирусом иммунодефицита человека китайцев достигло 400 тысяч. При этом эксперты министерства здравоохранения признают, что в действительности количество зараженных этой болезнью может быть больше. ■

INTERNET

## Хакерам будет кому помолиться

**Егор ИВАНОВ**

Ватикан серьезно рассматривает возможность «предоставления» святого покровителя всемирной компьютерной сети Интернет. Теперь, отправляя электронное письмо своему корреспонденту в далекой стране, можно будет обратиться с молитвой к святому Исидору. Именно он стал главным кандидатом на роль покровителя Интернета.

Святой Исидор жил в Испании в период около 560 - 636 годов. Этот эрудированный человек, спасая античную культуру, написал двадцатитомную энциклопедию, в которой зафиксировал мировые знания.

В идее назначить святого Интернету нет ничего удивительного: Ватикан выбирает покровителей любой области человеческой деятельности. ■

ФЕСТЫВАЛЬ

## Расійскія «зоркі» на «Славянскім базары» будуць каштаваць 10 мільёнаў рублёў

**Марына КУНОЎСКАЯ**

У Віцебску распачаўся продаж білетаў на канцэрты Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску». Сёлета цэны фестывальных білетаў цалкам параўнальныя з коштам наведвання гастрольна-канцэртных мерапрыемстваў у сталічных канцэртных залах. Так, лепшыя месцы ў амфітэатры на выступленні расійскіх «зорак» Філіпа Кіркорава і Валерыя Ляонцьева, а таксама на цырымоніях адкрыцця і закрыцця фестывалю каштуюць да 10 млн. рублёў. Сольныя канцэрты Сафіі Ратару і Ларысы Долінай абыдуцца іхнім прыхільнікам у 2–7 млн. рублёў, іншыя праграмы з удзелам «зорак» — ад 1 да 5 мільёнаў. «Сацыяльныя цэны» — ад 300.000 беларускіх рублёў — устаноўленыя толькі на канцэрты конкурсу маладых выканаўцаў, праграму расійскага фестывалю «Казачий круг», украінскую праграму і гала-канцэрт маладых удзельнікаў фестывалю. Сёлета выступаў «зорак» эстрады на вулічных пляцоўках не чакаецца; на сцэне, размешчанай на плошчы Свабоды, абяцалі выступіць толькі група «Балаган лімітэд», кампазітар Мікалай Дабранраваў, паэт Аляксандр Шаганаў і шматлікія фальклорныя калектывы. ■

ЗОРКІ



Фота IREX/ProMedia

У белорусских девчонок свой кумир — Леонардо ДиКаприо

## Том Хенкс — самый коммерческий актер в США

**Егор ИВАНОВ**

Том Хенкс занимает первое место среди американских актеров, способных своим участием обеспечить коммерческий успех фильма. К такому выводу пришла редакция газеты *Hollywood Reporter*.

Это исследование ежегодно проводится уже в течение пяти лет. В текущем году сотрудники газеты попросили 135 руководителей предприятий, имеющих отношение к развлекательной индустрии, составить рейтинг 525 ведущих актеров с точки зрения их способности обеспечить финансирование фильма или привлечь зрителей в кинотеатры.

В результате список возглавил Том Хенкс, опередивший Мэла Гибсона, Тома Круза (который занимал первое место в этом списке в прошлом году), Харрисона Форда, Джима Кэрри, Леонардо ДиКаприо, Джона Траволту, Джулию Робертс (единственную женщину, вошедшую в первую десятку актеров), Робина Уильямса и Брэда Питта. ■



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 572 Нумар падпісаны ў друк 15/07/99 (15:00) Наклад — 21.110